*Надзея Ясмінска*

# ЯКУБ – СРЭБРАНЫ ЧУБ

---

## 1.

Даўным-даўно, а можа, і нядаўна, за гарамі і марамі, за пушчамі-дрымушчамі, за гразкімі балотамі ды вірлівымі рэкамі разлягалася сабе вольна зямля вабная-гожая, з травамі шаўковымі ды спевамі птушынымі. Усім яна прытулак давала: вялікім і малым, добрым і ліхім, жывым і мёртвым. Не абышлі, вядома ж, мясцін тых людзі клапатлівыя: гарады з вёсачкамі збудавалі, жыццё-быццё наладавалі.

Адна такая вёска называлася Верасніцай. Хаткі там як грыбы раслі, з небам саламянымі капелюшамі віталіся. Гаспадары іх па-рознаму жылі. Хтосьці заможна, хтосьці бедна. А на ўскрайку, нібы паасобку ад люду, марнеў у галечы адзін чалавек на імя Мікош.

Што з ім калі благое надарылася, старыя вяскоўцы й тыя не памяталі. Можа, бацька яго, калі хаціну сталяваў, заклаў незнарок у сцяну воўчае дрэва з чорнай сарцавінай. А можа, доля дасталася такая няўдалая, з ліхам у кожнай руцэ і за пазухай. Працаваў небарака, ажно жылы трашчалі, а што з таго меў? Бяду за бядою ды хлеб з лебядою. Іншы, мо, і наракаў бы, але Мікош быў з тых ціхмяных людзей, што нават вады не замуцяць. Упрогся ён у свой лёс і цягнуў яго з дня ў дзень.

Доўга пражыў Мікош у нудзе-самоце, сядзеў вечарамі ў пустой халупцы, слухаў, як вецер у коміне вые ды грукае юшкай раззлаваны пячурнік. Вядома, што хата без гаспадыні плача. Але хто за такога нешчаслівуца замуж пойдзе? І ўсё ж знайшлася дзяўчына, сірата Аўдоля, якая не багацця шукала, а цяпла з пяшчотай. Паседжвалі яны з тае пары ўдваечку, як князь з княгіняю ў трухлявым палацыку, размаўлялі, казкі баялі, а вочы іх свяціліся, нібы зоркі.

Лягчэй стала разам Мікошу з Аўдоляй, хоць жыццё ўсё роўна не надта іх шкадавала. Не затрымваліся ў жыцці дзеткі іхнія: толькі нараджаліся – зляталі адразу на нябачных крылах прочкі. Чарнеў з гора Мікош, залівалася слязьмі Аўдоля. Але ж неўзабаве з′явіўся ў іх хлапчук – быццам карэньчыкамі за наш свет зачапіўся. Праўда, плакаў нязмоўкла, бо крыксы немаўлятку даймалі.

Калыхала Аўдоля дзіцё, туліла яго да грудзей, і тут прыйшла ёй у галаву думка:

– А што, калі ў Цыпрыяна рады якой спытаць?..

Задумаўся Мікош. Няпросты быў той чалавек, Цыпрыян. Пабойваліся яго ў Верасніцы. Жыў ён ля самага лесу і нават выглядаў, як лясун: хмурны, калматы, з барадою па самы пуп. Павітаешся з ім – а ён шапку насуне і толькі вачыма бліскае бы воўк. Але шмат чаго Цыпрыян ведаў: замовы ўсялякія, зёлкі загаворныя, з духамі нябачнымі нават умеў гаварыць. Як стане, бывала, шаптаць – птушкі й тыя сціхалі. Казалі людзі ў ваколіцах, што ліха ён нікому не чыніў. Сам, праўда, надта не парываўся каму падмагаць, але як звяртаўся хто, не адмаўляў зазвычай.

Ды й як бы горай вядун той ні зрабіў, куды ўжо горай! Зірнуў Мікош на тварык дзіцячы: з-пад празрыстай скуры кожную крывіначку відаць. І кіўнуў на знак згоды. Падхапілася, замітусілася адразу Аўдоля: па закутках дабра якога наскрэбла, пачастунак спякла. Угарнула сына ў коўдру, узняла на рукі і пашыбавала ўслед за мужам.

Толькі падышлі яны да лясной хаткі, а гаспадар ужо на парозе стаіць. Угледзеўся ў дзіця моўчкі, носам павёў, бровы нахмарыў. І прамовіў глуха:

– Праклён тут стары, з крывёй перададзены. Няйначай дзед яго ў свой час з ведзьмаком рассварыўся.

– Ці можна зняць? – запытаўся Мікош.

– Я не змагу, – нахіліў галаву Цыпрыян, – бо моцна ўдзеяна. Няма ў мяне такой сілы. Але, мо, хтось вялікі злітуецца з малечы. Дождж папрашу, да сонца звярнуся, у ветру спытаю…

Прынёс вядун пустую буслянку і паклаў у яе хлопчыка, як у калыску. Паставіў на зямлю, нешта зашаптаў, а разам з ім лес на розныя галасы загуў. Сонейка за хмару заплыло. Неба пыхнула маланкай-бліскавіцай, а ніводнай дажджынкі не праліло. І тут наляцелі вятры, закруцілі буслянку, узнялі, нібы з сабой знесці хацелі. Закрычала Аўдоля, кінуўся быў да сына Мікош, дый абое нават паварушыцца не змаглі. Адзін Цыпрыян стаяў сабе спакойна, вачыма цьмянымі ўсміхаўся.

Раптам вецер долу пахіліўся, калыску на месца паставіў і знік. Нібыта й не ён так выў-завываў, дрэвы гнуў ды хмар'ё наганяў. Дзіця таксама сунялося: ціхутка, як птах, варкатаць стала. Апрытомела Аўдоля, падхапіла сыночка на рукі Апрытомела Аўдоля, падхапіла сыночка на рукі, а той жывы і здаровы, што рыжык баровы! Толькі ў валасах космачка срэбна-белая святлеецца: відаць, вецер на памяць уплёў.

– Будзе жыць ваш хлапчук, – сказаў Цыпрыян. – Але ж ведайце, што парадніўся ён з вятрамі і некалі ўслед за імі выправіцца. Не сядзяць такія людзі на месцы, ляцяць, сэрца чуючы, у далечы.

– Хай вырасце, – разважыў шчаслівы Мікош, – а там пагледзім. Можа, і тут сынку будзе добра, у вёсцы роднай.

– Гэта ўжо як лёсам яму прызначана. Бо лёс жа… яго ні пешкі абысці, ні канём аб′ехаць: што суджана, тое й будзе.

Пакланіліся Мікош з Аўдоляй ведуну і панеслі, як скарб, малога дахаты. Імя хлопчыку ў той дзень далі – Якуб.

І мянушка да яго прырасла адразу: Якуб – срэбраны чуб.

## 2.

Жыццё-быццё з таго часу ў мікошавай хатцы паволі пайшло на лад. Гора, мо, і не адчапілася, падгрызала сям-там, але ікламі вострымі ўжо не ўпівалася. Не хварэў больш Якубка. Рос, бы гарбуз на добрай зямлі – бацькам на пацеху. А суседзі ўсё цікавалі, на чуб яго пазіраючы. Бо здаўна ж ведама: хто з маленства мецiну мае, таму на раду напісана быць не такім, як усе людзі.

– Ну, і што там за хлапчук у Мікоша? – балакалі паміж сабой сяляне. – Каб нарадзіўся з двума зубамі, то зразумела: чараўніком зрабіўся б. А гэты да чаго прыдасца?

Мікош і сам хацеў бы ведаць, да чаго ў яго сына сэрца прыхіліцца. Як стаў Якуб цацкамі бавіцца, расклалі бацькі перад ім розныя рэчы і назіраць сталі: за што малы схопіцца. За молат – можа, кавалём стане, за пешню – бортнікам, за стралу – паляўнічым, а за сяўню – будзе зямлю араць ды збожжа сеяць. Ды ніводная з тых рэчаў Якубку не прынадзіла. Папоўз малеча бачком да старога кія ў куце. З кіём тым яшчэ дзед яго калісьці падарожнічаў. Перамаргнуліся моўчкі Мікош з Аўдоляй, словы Цыпрыянавы прыгадалі.

А калі размаўляць хлапчанё навучылася, дык і ўвогуле дзіву бацькі даваліся. Нешта слухае сабе, варушыць вуснамі, усміхаецца вачыма валошкавымі, а потым як скажа:

– Я ведаю!

– Што ты, такая драбяза, ведаеш? – смяецца бацька. – Толькі з носа кап ды ў рот хап.

– Ведаю, пра што галінкі за акном шумяць і птушкі гамоняць.

Тут ужо змаўкаў, задумляўся Мікош: згадваў, што й дзяды некалі пра цуды гэткія апавядалі. Маўляў, дрэвы усе, кусты і нават кветкі размаўляюць па-свойму, але ж рэдкія людзі іх разумеюць.

Падрастаў Якуб шпарка. Ледзь азірнуліся – у падлеткі бярэцца. І ўсё далей цягнула яго ад дому. Іншыя дзеці ля ганка сядзяць, пясочак перасыпаюць, ладкі з яго лепяць, а ён прабіраецца дварамі-гародамі да імшыстых узгоркаў: паглядзець ахвота, ці журавіны паспелі, альбо паслухаць, пра што дуб з яварам шапочуць. Пасля й глыбей у гушчар хадзіць насмеліўся – да самага таго куп'я, дзе русалкі зімуюць. Дзіва дзіўнае, але звяры яго не краталі. Выбежыць на сцяжынку воўк – хлопчык з ім павітаецца, і той выпадкоўца абмінае. А як мядзведзіца сустрэнецца, Якубка да яе з паклонам: "Здарова будзь, цётка Маруха!" – і буркне нешта крывалапая, страсяне галавою ды ў лес паволі падасца.

Але ж пакуль не пакідаў Якуб Верасніцу. Трымаўся на роднай зямлі, як на камлі. Бацьку з маткаю дапамагаў, суседзяў не забываў, жабраку кожнаму хоць скарынку хлеба знаходзіў.

Ды перамянілася звыклае жыццё нечакана ў яго сямнаццаты год. Лета стаяла тады надзвычай лагоднае: прамяні кожную травінку лашчылі, і паветра ад водараў такім салодкім здавалася, што лізні – нібыта мёд. А жыта ўрадзілася як ніколі: з галавой магла схавацца хоць сабе вёска цэлая. Шчаслівіць бы людзям, ды ледзь не штодня змрачнелі яны. Бо здавён яшчэ ведалі: калі лепш няма куды, то чакай якой бяды.

І насамрэч пагрукалася аднойчы злыбяда ў дзверы. І не ў сялянскую халупу яе занесла, а ў палац княжы.

А сталася ўсё вось як. Меў князь дачку маленькую, любіў яе самазабыўна. Ды не ўпільнавала дзяўчынку нянька-дурніца: паклала спаць якраз той парою, калі сонца дабралася да небакраю, але не сышло яшчэ нанач. Вось сонейка й забрала князёўну з сабою. Так бедаваў валадар, што скаваў ланцугом сваё сэрца, каб не разарвалася. Знікла пад жалезнымі ціскамі дабрыня яго былая, крыўда чорная падступілася, думкі страшныя ў галаве закаламуціліся. Сабраў князь урэшце войска, бы цёмная хмара: у бойку лютую рушыць надумаў. Так нібы цень накрыў ясны дзень: вайна вось-вось край ахопіць.

Дайшлі чуткі пра насланнё тое да вёсак-мястэчак. А сяляне ўжо самі пра ўсё здагадаліся: мо граматы яны й не ведалі, але па зорках чытаць змалку звучаныя. Надта ж прыкметнай на небе мятла зрабілася – свяціла з доўгім хвастом. А яна якраз-такі вайну й прадказвала. Сечу, што безліч людзей можа змесці: чужых і сваіх, малых і сталых. Пра тое ж крумкачы над хатамі і дрэвамі крычалі, у чароды збіваліся.

– Няўжо нельга хоць штосьці зрабіць? – перашэпты ад хаты да хаты пайшлі. – Ланцуг той разбіць, сэрца князява аслабаніць…

– Хто яго разаб'е? Толькі князёўна, ды яна на небе недзе. А лесвіц туды не прыставіш.

– Ці можа чалавек на неба залезці?

– Магчы то ён можа, толькі яго за мірг адзін назад скінуць. На блінец расплюхаецца. І карысць якая?

Дапаўзла гутарка тая й да Верасніцы. А тут іначай ужо загаварылі.

– Простаму чалавеку на нябёсах, вядома ж, не ўтрываць. Але ў нас ёсць і няпросты – сын Мікошаў!

– Так, Якуб наш, срэбраны чуб.

– Ён з ветрам некалі парадніўся, а вецер таксама высока жыве, з сонцам побач.

– Мо й дапаможа дзяўчо вярнуць, князя суцешыць…

Чулі гэта Мікош з Аўдоляй, але маўчалі. Спадзяваліся, што калі й пойдзе Якубка вандраваць, то за палі ды за лясы, у буйныя гарады – не на неба ж самае!

Адно хлопец і сам пра ўсё даведаўся. Чаго людзі не сказалі, тое птушкі наспявалі.

## 3.

Нядоўга думаў Якубка. Вырашыў ён на неба выпраўляцца, у ветру ласкі прасіць. Толькі як туды трапіць? Ад сівых баечнікаў кожны чуў, што за морам паўднёвым ці за морам заходнім, дзе крыштальныя горы стаяць ды агністыя рэкі цякуць, край зямлі ёсць: зямля там з нябёсамі сходзяцца. Але ніхто, быццам, туды пакуль не дапяў. Ды й не блізкая тая дарога. Пакуль дойдзеш, пакуль вернешся… А вайна тым часам гнёзды родныя паразбурае, людства выкасіць, ні старых ні малых не шкадуючы.

Пачухаў Якуб свой срэбраны чуб і патупаў у бок лесу, дзе Цыпрыянава хатка стаяла.

Цыпрыян, між тым, зусім састарэў, увесь згорбіўся, зморшчыўся бы порхаўка. У Верасніцы амаль не паказваўся, людзі ўжо думаць пачалі, што ён у ваўкалака перакінуўся ды ў лясны гушчар сышоў. Сапраўды, хадзіў стары кудысьці, а вярнуўшыся, днямі ля халоднай печы сядзеў. Прыносіць яму хто

ежу на парог, пытае нешта, а Цыпрыян і не варухнецца нават – маўчыць, як пень.

Ведаў Якубка, што вядун дзіклівым стаў, але ж наважыўся рады папытаць. Наблізіўся ён да хаціны, што вокнамі ўжо ў зямлю ўрасла, галёкнуў:

– Добрага здароўечка вам, дзядзьку Цыпрыяне!

Ані гуку ў адказ не данеслася. Тады хлопец дадаў:

– Якуб гэта, што ў буслянцы вашай люляўся некалі!

І тады пачуўся глухі голас:

– Калі так, то заходзь.

Увайшоў Якубка і бачыць: сядзіць стары на печы, увесь барадой захутаўся, вочы пад калматымі бровамі схаваліся, ногі тонкія, як сцябліны хвашчу, вісяць. Пацягнуў глыбока носам Цыпрыян і прамовіў:

– Ну, кажы: навошта завітаў.

– Дзядечку, – прызнаўся Якуб, – хачу я на неба патрапіць, князёўну ў сонца забраць і роднаму бацьку вярнуць. Каб вайна адступілася, зямля попелам не завеялася, крывёй не ўмылася.

– На якое неба? – вядун спытаў. – Яно не адно ў нас. За бачным яшчэ нябачныя ёсць. Шкляное, мядзянае, жалезнае...

– Не ведаю, – разгубіўся хлопец. – Пэўна, спачатку на тое неба, дзе вецер жыве. Хачу ў яго дапамогі папрасіць.

– Які вецер? Ён не адзін у нас. То Віхор падзьме, то Сівер наляціць, то Падвей закруціць...

– А хто мяне малога вылекаваў?

– Каб я памятаў! Даўно тое было. У галаве мышы норы праелі ды гнёзды звілі. Але… Сяк-так я нешта магу яшчэ.

Сцёгся з печы Цыпрыян, пакульгаў па хаце. Зазірнуў у адзін кут, у другі, вывалак рэшткі старой буслянкі і адламаў раздвоены пруток. Пашаптаў над ім нешта, выйшаў на парог, падкінуў угору… Закруціўся пруток у паветры ды й зваліўся, уторкнуўся ў зямлю. Тырчыць сабе, гнецца, драўляным пальцам дарогу паказвае. Тут жа птушкі падхапіліся, цішком-радком на сцяжынцы паселі. “Ціў-ці-ды, – заліваюцца, – ходзь-ту-ды!”.

Паглядзеў за ўзгоркі Якуб. Зразумеў, адкуль шлях пачынаць.

– Больш нічым не магу я табе дапамагчы, – мовіў Цыпрыян. – А вось ты мне, срэбраны чуб, – можаш.

– Толькі скажыце, дзядзечку!..

– Я таксама сваю дарогу шукаю. Ды ніяк на яе не натраплю. Да продкаў ісці мой час даўно настаў. Як з ветрам сустрэнешся – калі лёсам прызначана, гэтак і здарыцца – не забудзься на старога, спытай пра мяне.

Падзякаваў Якубка і патрапаў паволі дахаты. На твары – ні хмурынкі. А мароз на скуры стаіць, аж кашуля спалатнела: думаць сабе нешта – адна справа, а ступакамі невядомую далеч таптаць – іншая зусім. Не ведаў ён, як бацькам пра сваё рашэнне сказаць. Ды калі убачыў маці, то ўцяміў, што й гаварыць не трэба: чакае яна ля брамкі, а слёзы ў яе кропаюць бы з бярэзіны сок.

– Сыходзіш ты ад нас, сынку?

– Як вы, матухна, здагадаліся? – здзівіўся Якуб.

– Хлеб я пякла, – растлумачыла Аўдоля, – а ён у мяне раздзяліўся. Значыць, хтосьці ад сям'і адлучыцца. Дый сама я не сляпая, не глухая: вочы бачаць, вушы чуюць. А сэрца матчына галосіць – нічым яго не затыкнеш.

Мікош таксама ані слова ўпоперак не сказаў. Ведаў: час настаў аддаць Якубку. На ласку ці няласку долі аддаць. Ды й не з дурной жа галавы выбірае сын шлях – сэрца слухае.

Досвіткам, калі яшчэ зараніца свяціла, стаў Якуб у дарогу збірацца. Хлеба акраец, сала кусок, солі драбок, гуркоў кіслых прыхапіў. Кій дзедаў з кута забраў – вось і прыдаўся той у лёсе. Сыпануў бацька сыну ў анучку жменьку роднай зямлі, схавала маці палын за пазуху – каб русалкі баяліся. Абняліся яны, паплакалі трошку, і адправіўся Якубка ў далечы, куды лісце ды птушкі звалі: “Ціў-ці-ды! Ходзь-ту-ды!”.

Неўзабаве і сонца ўстала, распусціла над узгоркамі залачоныя косы. "Чакай, яснае, убачымся мы з табой", – падумаў Якуб ды песню заспяваў.

## 4.

Вялі Якуба знакі не па вядомай дарожцы – праз суседнія сялібы ды на кірмаш – а туды, куды людзі амаль не хадзілі, жывёла не забіралася: праз паляны і ўзлескі, багністыя купіны. Глядзеў ва ўсе вочы хлопец, каб у балота не трапіць, бо мясціны тут бывалі гразкія і глыбокія: ў такую тхлань праваlішся, што й следу не стане.

Але ж выбраўся ён нарэшце на роўную прастору і ўбачыў там падарожніка.

– Гэй, чалавеча! – азваўся да яго Якубка. – Ці блізка адсюль якое сяльцо?

– А крылы ёсць? – той запытаў.

– Няма…

– Ну, тады толькі пад паўдня да Гусінай Волькі дадыбаеш. І запомні, хлопча: кожнае сяльцо мае сваё нараўцо!

Здзівіўся Якуб, але падзякаваў ды пакрочыў далей, і праз нейкі час да мястэчка прыбіўся. І ўсё там, здалося, як і паўсюль: на вулачках куры грабуцца, у лужынах свінні качаюцца, на прызбах старэчы косці грэюць ды дзятва ў лялькі бавіцца. Але вось дзіва: у кожнай хаце яшчэ адны дзверы маюцца, на даху. Быццам гаспадары не толькі з падворка заходзяць, а таксама з неба спускаюцца.

Аказалася, у Гусінай Вольцы жывуць людзі-гусі. Паглядзіш на іх – ад іншых людзей не адрозніш: рукі, ногі ёсць, галава на плячах сядзіць. А спатрэбіцца – перакінуліся тыя людзі ў гусей і паляцелі, каб часу не губляць і коней не таміць. Не спалохаўся Якубка, павітаўся з усімі, а адзін чалавек запрасіў яго дахаты, бо жонка ягоная акурат паспела крупнік зварыць.

За сталом Якуб і распавёў пра сваё падарожжа, пра тую хмару чорную, што хутка святло праглыне.

– На неба трапіць? – перапытаў гаспадар. – Не, не скажу я. Хоць мы і лётаем, але так высока не ўзнімаемся. Чуў я толькі, што небасхіл дзесьці з зямлёю мяжуе, а сама зямля нібыта на трох кітах стаіць. Але то бздура нейкая, бо дзе тым рыбінам такі цяжар утрымаць?.. Ты, хлопча, ідзі далей да Сомавых Віроў – мо, там нешта ведаюць.

І даў ён Якубу на развітанне белае пяро.

– Калі ўсё-ткі на неба залезці адважышся, – мовіў, – то прыдасца.

Пакланіўся гаспадарам Якубка і зноў рушыў у дарогу. Шыбаваў ён уздоўж рэчкі-буркухі і неўзабаве натрапіў на вялікую гаць, дзе якіясь дамкі драўляныя наўпрост з вады тырчалі. Спачатку падумаў хлопец, што гэта хаткі бабровыя, але ўгледзеўся – не, чалавечыя! А былі то Сомавы Віры, і жылі там людзі-самы. Выглядалі яны звычайнымі людзьмі ды й толькі: мужыкі кажухі апраналі, бабы хустамі ахіналіся. Але як захочуць, то перакінуцца ў самоў ды паплывуць, нібы й па зямлі ніколі не хадзілі – толькі іх і бачылі.

Прыкмеціў Якуб, што хтосьці на двары плёскаецца, паздароўкаўся – і тут кабета паказалася, госця ў дом паклікала, на сухое месца пасадзіла.

Наварыла яна, напякла ды насмажыла ўсялякай рачной смакацені. Ласуецца Якубка і тым часам аповед вядзе, чаму родную вёску пакінуў.

– Да неба дабрацца? – здзівілася гаспадыня. – Не, не параю табе нічога. Неба ад нас далёка, а мы ў вадзе жывём, пра ваду болей ведаем. Вось чуткі ходзяць, што не толькі на зямлі, але й пад зямлёй таксама ёсць рэкі ды азёры, моры-акіяны. І калі яны на паверхню выб'юцца, то затопяць увесь свет… Ходзь ты, карасіку, да Воўчага Бору. Напэўна, там нешта скажуць.

Падзячыў хлопец шчыра гаспадыні, а яна дала наўзамен блішчастую, бы люстэрка, лускавінку:

– Калі ўсё-ткі да неба дойдзеш, то прыдасца.

І падаўся хлопец далей. Ужо й вечар запанаваў, пад шэрым змрокам наваколле схаваў. Захутала цемра палі, пушчы-лясы, хіба сцяжынка пад нагамі яшчэ сяк-так бачная.

Раптам наперадзе дрэвы пракінуліся, а між іх агеньчыкі бліснулі. У Якуба ажно мурашкі па спіне сыпанулі: вочы! Не абмінула ж ліха…

Але ступіў на дарогу даўгалыгі калматы мужык. І супакоіў:

– Не бойся, хлопча! Ніхто цябе тут чапаць не стане. Чаго ты блукаеш у поцемках? Ідзі да нас у хату!

Апынуўся вось гэтак Якубка ў Воўчым Бары, дзе жылі людзі-ваўкі. Яны не як ваўкалакі былі: маглі ў ваўкоў перакідвацца без усялякіх абрадаў. Захацелі – скінулі шкуру, захацелі – ізноў апранулі. Зямлянкі ім спраўна хаты замянялі. Хоць і ваўчынае логава нагадвалі, але ўсярэдзіне ўсё па-людску ўладкавана.

Запрасіў мужык госця да стала, маці яго смажанага сала з вялізнай лычкай каўбасы на вячэру паставіла. Якуб і паўтарыў каторы раз сваю гісторыю.

– На неба ўзняцца? – ссунуў бровы гаспадар. – Не, не ведаю я. Мы, калі да неба галаву задзіраем, больш на месяц глядзім. А месяц… Ён спрадвек навыперадкі з сонцам ходзіць, ды ніяк дагнаць яго не можа. Хоча, мабыць, ля нябеснага вогнішча пагрэцца... Вось што, хлопча: збоч ты пасля нашага Бору на ледзьве бачную сцежку, што бяжыць праз хмызняк і балацянку да ўзлеску. Там, на беразе лясной рачулкі, у хатцы на курынай лапцы жыве варажбітка Мар'янка. У яе й распытай. Толькі цёмначы не хадзі, у нас заставайся. Пераначуеш, то болей пачуеш.

Пагадзіўся Якуб з радасцю і спаць пайшоў. Чуліся яму скрозь сон ваўчыныя спевы. А раніцай ён развітаўся з гаспадарамі ды падзякаваў за гасціннасць.

Падараваў яму мужык на ростань востры кіпцюр.

– Калі ўсё-ткі на неба ўзбірацца будеш, – патлумачыў, – то прыдасца.

Схаваў Якубка падарунак, добрае слова сказаў і далей паспяшаў.

## 5.

За Ваўчыным Борам сапраўды была сцяжынка. Пайшоў па ёй Якуб праз хмызняк і балацянку туды, дзе бруілася тонкая, як дзявочая стужка, рэчка. Там дрэвы не шапталі, птушкі не спявалі, толькі конікі ўзахліп цвыркалі. На беразе стаяла хатка з адным акенцам і на адной курынай лапцы. Калі хлопец наблізіўся, то пачуў:

– Ходзяць тут, ходзяць, сваім духам смуродзяць!

Якубка яшчэ бліжэй падышоў. Нахілілася да яго хатка бы жывая, зіркнула чырвоным ад свечкі вокам, і нечы голас ізноўку прабуркацеў:

– Ходзяць тут, ходзяць, сваім духам смуродзяць!

Рыпнулі-адчыніліся дзверцы, якія невядома дзе раней хаваліся. Якуб быў гатоў убачыць бабу страшную, раскудлачаную, з жалезнымі таўкачамі заміж ног, якой бацькі неслухмяных дзетак палохаюць. Аж з'явілася перад ім чараўніца прыгажосці дзівоснай. З вуснамі-малінамі, смаляною касой на грудзях ды позіркам, што нібы сон-кветка дурманіць.

– Навошта, саколіку, завітаў? – спытала. – Прэч ад ліха бяжыш ці напярэймы?

А Якуб сумеўся й нават слоўца сказаць не можа, толькі стаіць, як стаўбень ды глядзіць ва ўсе вочы. Тады засмяялася Мар'янка і рукавом махнула – развеяліся чары салодкія.

– Прывабны ты хлопец, – пахваліла. – Але, бачу, не просты. Таму смешкі правіць з табой не буду, бо яшчэ гнеў вялікіх на сябе наклічу. Годзе пазіраць ужо, нібы з яйка вылупіўся! Раскажы пра сваю бяду.

Распавёў усё Якубка, не ўтаіў праўды ні дробачкі. Слухала варажбітка, пахмыквала, плячыма пацёпвала. А ўпоравень з ёй хатка трэслася, саламянай галавойківала.

Нарэшце Мар'янка прамовіла:

– Вось што, любы мой: ёсць на свеце той край зямлі. Але пакуль ты да яго даклыпаеш, барада ў цябе адрасце па самы пуп. Лепей наўпрост на неба ўзняцца. З тымі, хто туды лётае.

– З птушкамі, ці што? – не зразумеў хлопец.

– Не, птушкі толькі бачнага неба сягаюць, а ты мусіш на нябачнае трапіць. Калі б цмока якога злавіць... Але дзе ж іх цяпер знойдзеш? Крок памёр ужо, Крагавей ва ўсе крылы ўцёк. Хіба што Вяль у нашых мясцінах застаўся. Як я маладая зусім была, жыў ён тут непадалёк. Сваволіў, жывёлу ў сялян цягаў. І так ужо ўеўся людзям у косці, што нехта ўзяў ды шкуру авечую саломай і серкай набіў і Вялю падсунуў. Той праглынуў, зароў і, як тое кажуць, здох. Толькі Вяль з тых цмокаў, якія не паміраюць, а ў камяні ператвараюцца. Бачыла я той валун. Шмат гадоў ён на чатырох лапах стаяў. А потым яму тутэйшы млынар галаву на жарон адсек. Нічога добрага з таго не выйшла, бо нельга чапаць тое, пра што не ведаеш. Змалоў той жарон усё багацце млынара, ды ў дадатак і яго самога.

Маўчаў-дзівіўся Якуб, і не вытрымаў-такі:

– Дык і што мне з гэтым усім рабіць?

– А вось што, – патлумачыла Мар'янка. – Дам я табе ваду чароўную. Ты камень ёю абросіш – і Вяль зноў цмокам стане. Толькі спачатку галаву яго адшукай і на шыю пастаў. Бо навошта табе пачвара безгаловая?

– Ён жа мяне праглыне, як тую авечку! – спалохаўся Якубка.

– Не праглыне, не бойся. Ажывіш цмока – зробішся яму гаспадаром. Будзе ён цябе слухацца, пакуль гэтак жа не аддзячыць: жыццё тваё не выратуе. Я сама неяк думала Вяля ў служкі ўзяць, але якая мне з яго карысць? Галава з лубку, а розуму з бубку, адна шкода будзе. Хіба што лятаць з месца на месца, дык мне на тое пералёт-травы стае... Але ж, любы мой, за дабро ў нас дабром плацяць. За тую ваду дазволь выдраць тры валаскі з твайго чуба. І мне на спадобу, і табе не стратна. Згодзен?

Што тут Якубу рабіць? Адказаў ён:

– Згодзен!

Усміхнулася варажбітка, тузанула хлопца за срэбраны чуб, а потым саскочыла з хаткі і павяла яго пад стары дуб, дзе біла крыніца. Набрала вады ў маленькую пляшку ды ўздыхнула:

– Вось раней былі мядовыя крыніцы, і цяклі з іх мядовыя рэкі. Здрабнеў, сапсаваўся свет – няма чаго й казаць…

Сунуў Якубка ваду за пазуху, нахіліўся долу і ўжо цераз рэчку пераскочыў, калі варажбітка наўздагон крыкнула:

– Ат, забылася! З сабой вазьмі.

– Гэта што? – здзівіўся хлопец.

– Патэльня. Няўжо ў вочы патэльні не бачыў?

– Бачыў. Але ж не разумею…

– І не разумей, – адказала Мар'янка, – не мужчынская гэта справа. Дзяўчыне аддай. Яна будзе ведаць, што рабіць.

– Якой дзяўчыне? – зусім разгубіўся Якуб.

– А, дык ты яшчэ не сустрэў яе? Ну, нічога! Пачакай трохі.

Не стаў спрачацца Якубка, прымацаваў патэльню да торбы. Ды толькі хацеў яшчэ пра што якое Мар'янку распытаць, як тая знікла, нібы й не была. І акенца ў хатцы згасла.

## 6.

Ішоў Якуб, ішоў і дабраўся ўрэшце да цмокавых мясцін, на якія яму варажбітка ўказала. Калі што тут было, дык даўно быллём парасло: ані хат, ані гародаў, толькі трава ледзь не па пояс. Нездарма ж кажуць: без гаспадара й грошы – чарапкі.

Пачаў хлопец таго Вяля шукаць, дзедавым кіем зялёныя хвалі мяць. І знайшоў неўзабаве: пасярод паляны валун, бы калода якая, у зямлю ўгруз. Чатыры лапы відны і хвост нібыта ёсць, а вось на каменнай шыі напраўду нічога няма.

– Пачакай, – мовіў Якубка. – Будзе табе галава.

Пачасаў ён далей – туды, дзе вадзяны млын калісь стаяў. Рэшткі цагляныя шчэ там засталіся, а сама рэчка перасохла, сажалкай зрабілася. Вада смярдзіць, жабы квакочуць, сваё балота хваляць.

Спыніўся Якуб на беражочку, нешта задумаўся, і раптам вочы смуга заслала, ногі падкасіліся, пацягнула яго ў каламуць. Упіраецца хлопец, але сіл не стае; толькі думкі трапечуць нібы ў гняздзе птушаняты: пра што бацька вечарамі казкі баяў, пра што маці няраз казала... Здолеў ён неяк пальцамі паварушыць, пляшку за пазухай намацаў ды кропнуў у сажалку вадзіцы крынічнай.

Адразу там бы ў гаршку забурбатала, жабы кулём плёхнуліся, дым берагі завалок. І вынырнуў вадзянік: гарбаты, барадаты, цінай аблытаны, рачкамі абвешаны. Словам, брыдкі – ажно вусцішна. Плюецца ды прыгаворвае:

– Цьху, чужая! Цьху, чужая!..

Гэта і ўспомніў Якубка: вучылі яго бацькі, што рачныя ды азёрныя валадары чужой вады не любяць – асабліва крынічнай, як слязіна, чыстай. Не кінуўся ён на ўцёкі, толькі як найдалей ад сажалкі адступіўся. А вадзянік прапляваўся, бельмы лупатыя працёр ды на хлопца ўтаропіўся.

– Вох! – прабулькаў. – Памыліўся я. Думаў, просты мужык – саламяны язык, а ты з іншага насення ўзрослы, з вятрамі знаешся. Не крыўдуй, чалавеча, дай віну загладзіць. Чаго хочаш? Золата, срэбра?

– Жарон, – сказаў яму Якуб.

– Які шчэ жарон? – здзівіўся вадзянік.

– З галавы цмока зроблены.

– Ах, вунь яно што... Казаў я млынару: кінь гэты камень, не ты ім малоць будзеш, а ён табою. Але ж не паслухаў, ганарлівец. Вось і згінуў ды прапаў, быццам у ваду ўпаў. Ну, і трасца з ім, зрэшты! Сквапнюгам быў – не давядзі свет: не мяскам-сальцам – свінымі кішкамі частаваў... А жарон той сярод развалін ляжыць. Мо, ведаеш, што з ім рабіць. Давалачы яго, каб ты жылы не рваў?

– Калі ласка, дзядзечку, – пагадзіўся Якубка.

Ізноў забулькатала сажалка, але ўжо не крынічнай вадой напалоханая. Павыпаўзлі на беражок жучкі ды рачкі, жабкі ды макрыцы, павукі ды п'яўкі. Пазалазілі талакой у былы млын, усхапілі на сябе жарон і панеслі ўслед за Якубам. Давалаклі да валуна – і разбегліся хто куды.

Хлопец неяк каменную галаву на шыю ўссадзіў, уздыхнуў глыбока ды абрасіў цмока з пляшкі.

Закалаціўся валун, заторгаўся і раптам зароў так, што зямля здрыганулася. А пасля авечую шкуру з каменных сваіх вантроб выплюхнуў. Глядзіць Якуб: расколіны зрасліся, мох лускавіннем зрабіўся, а там, дзе ямкі-правалiны цьмянелі, цяпер вочы-зіркачы лыпаюць. Паўстаў перад ім сапраўдны цмок. З галавой хіба крыху дзівакатай – плоскай, як жарон.

– Ты мяне не ясі! – замахаў рукамі Якубка. – Я ж цябе выратаваў!

– Не яші, – паўтарыла пачвара. – Не яші гашпадара, не!

– Дык, значыць, ты той злосны Вяль?

– Вяль. Але ўжо не жлошны, бо жубоў няма.

Разявіў цмок пашчу – і насамрэч сцерліся зубы за той час, пакуль галава жарном была.

– Ну, то й добра, – сказаў Якуб з палёгкай. – А патрэбен ты мне вось нашто. Узнімемся мы з табою на неба: хоць на шкляное, хоць на мядзянае, хоць на жалезнае. Трэба там вецер адшукаць, ласкай яго заручыцца. Мо, дапаможа ён маленькую князёўну вярнуць. Іначай вайна страшная будзе – зямлю болем скуе, крывёю залье.

– Не, – адказаў на гэта Вяль.

– Ах ты, страшыдла бяздушная! – раззлаваўся хлопец. – Людзі загінуць, а табе хоць бы што! Ну ўжо не, раз я сказаў – значыць, паляцім. Слухайся мяне. Я твой гаспадар!

– Гашпадар, – пагадзіўся цмок. – Але не паляцім. Жубоў няма і крылаў няма.

І толькі цяпер прыкмеціў Якубка, што крылы ў Вяля пабітыя: адно напалову тырчыць, другога й зусім не бачна. Кінуўся ён у траве шукаць, а цмок яму кажа:

– Не жнойдзеш ты, гашпадар. Крышывам яны шталі, даўно ў зямлю шышлі.

Зажурыўся Якуб, сеў напрасткі ў пустазелле, галаву апусціў. Птушкі навокал змоўклі, голле сціхла, нават заедзь віцца перастала. Вяль таксама побач апусціўся, прыснуў нібыта: толькі паветра праз ноздры шурпатыя свішча. Ды хутка хлопец вырашыў, што журба бядзе не памач: устаў, атросся і пачаў дарогу выглядваць.

– Гэй! – клікнуў ён, калі ўбачыў, што й цмок падхапіўся. – Ты за мной не ідзі. Ніякай ад цябе карысці, хіба што народ палохаць. А таму жыві вольна, толькі людзям ліха не рабі!

Але Вяль перакуліўся адзін раз – і зрабіўся памерам з каня. Потым другі раз – велічынёй з барана стаўся. І трэці раз – ужо ад сабакі не адрозніш, хоць і нязгразбны той сабака, з поўсцю лускаватай ды гарбом на спіне.

– Добра, – злітаваўся Якуб. – Куды цябе, бяззубага, гнаць... Будзеш у мяне Вялькам – амаль як тыя шчанюкі суседскія, Цюлька і Зяўка. Удвух весялей.

Тут і птушкі ажывіліся, заскакалі-залёталі. Хвастамі ў бок далёкага лесу паказваюць ды ціўкаюць: “Ціў-ці-ды! Ходзь-ту-ды!”.

Не хацелася хлопцу са знаёмай сцежкі ў гушчар зварочваць, але што зробіш: улез у дугу, не кажы “не магу”. Вось і паспяшылі яны з Вялькам, пакуль сонца над небакраем высока, з той надзеяй, каб у лесе начаваць не прыйшлося.

## 7.

Прабіраўся Якуб праз узлесак – дзікае птаства слухаў. А як глыбей зайшоў, дзе за дубамі-волатамі й сонца не відаць, то іншыя гукі пачуў, якія не кожнае чалавечае вуха зловіць. Там галіны трашчаць – русалкі на іх гойдаюцца, тут лесавікі лазовыя кусты гнуць, а пад самымі кронамі лешаняты ў люльках гушкаюцца, лапочуць нешта сабе пад нос, жалуды з яловымі шышкамі ўніз кідаюць. Ды сям-там дзівосныя агеньчыкі мігцяць-пераліваюцца: пэўна, заклятыя грошы цвітуць якому бедаку на згубу. Сочыць па баках хлопец дый пад ногі глядзіць: як бы незнарок у ведзьміны пляхі не ўступіць, бо галава замутніцца – не згадаеш, куды і нашто хадзіў.

Побач Вяль церушыў, не адставаў. Якубка нават забыўся пра аблічча цмачынае: зірнеш – ну, Вялька і Вялька, хіба што хвастом не віхляе. Мабыць, згладзілі за стагоддзі вятры і дажджы яго нораў, дый жарон дужа зубы змалоў.

Ішлі яны, ішлі, ногі трапалі, ані дабра, ані ліха на сваім шляху не сустракалі. Неўзабаве Якуб новы гук заўважыў – як жывот ягоны з голаду бурчыць – ды падумаў, што час і абедаць. Выбраў палянку, развёў вогнішча, дастаў з торбы хлеб з агуркамі, пачаў сала на ражончыку пекчы. А Вяль побач круціцца, ажно слінаю заліваецца: таксама есці хоча. Якубка даў яму сала, хлеба, нават агуркоў з соллю – але той пакаштаваў, дый выплюнуў.

– Не ведаю я, чым цмокаў карміць, – развёў рукамі хлопец. – Няма ў мяне ані вужынай яешні, ані верашчакі з кацiных хвастоў. Раз такі пераборлівы, скокні ў лес чаго лепшага налаві!

Толькі пад'еў Якуб і затаптаў у зямлю вуголле, як чуе: кусты шаргацяць, сухое галлё храбушчыць ды ломіцца. Хтосьці напярэймы бегма бяжыць. Вось ужо між ствалоў паказалася здань у жаночым абліччы: спадніца так і развяваецца, валасы раскудланыя твар засланяюць. Выхапіў Якубка з-за пазухі пучок палыну, выставіў перад сабой і зашаптаў: "Згінь! Згінь, мара, прападзі!". Але тая мара ўсё неслася, дарогі не разбіраючы, дый наляцела на хлопца так, што абое паваліліся.

– Ты не русалка! – выгукнуў Якуб, калі ўскочыў на ногі і як след агледзеўся.

– А ты не вораг! – адклікнулася дзяўчына.

– Проста косы ў цябе расплецены, от і здалося мне...

– Во як! Напужаўся, бачу, зубы нібы ў цюцькі ляскочуць… Не, звычайная я, проста ў ветраломе хустку сарвала ды валасы растрапала. А то ведаю, як кажуць: дзеўка без касы не дзеўка, бы кабыла без хваста!

Дзівіцца Якубка: крамень-дзяўчына, ні з якога боку яе не ўкусіш. Пасмы медныя з пазалотай, твар прывабны, носік востры ды ўпарты, угару паглядае.. І сказаў ён шчыра:

– Сонца таксама косы да зямлі распускае, кветкі імі лашчыць. А не смяюцца з таго людзі, толькі цешацца.

Усміхнулася дзяўчына, спадабаліся ёй такія словы. І мовіла яна ўжо без здзекаў:

– Мяне Арысяй завуць.

– А мяне Якубам. Ад каго ты так збягала – няўжо мядзведзя ўбачыла?

– Горш за мядзведзя. Калі хочаш ведаць, праводзь мяне да вёскі. Бо не маю часу тут сарокай стракатаць. Мне сваіх папярэдзіць трэба.

Разгубіўся трохі Якубка: і з Арысяй расстацца – страта, і з дарогі збочваць не варта. Але птушкі маўчаць, за сабой не завуць – што гэта, як не знак яму новы? Дый варажбітка ў хатцы на курынай лапцы таксама нешта пра дзяўчыну казала... Надумаўся хлопец і паклікаў:

– Вялька, хадзем!

І заспяшалі яны да вёскі ўтрох. Арыся ўсё на Якуба цікаўна пазірала і нарэшце рукі ў бокі ўперла:

– Прызнайся ўжо: што ты, нетутэйшы, у нашых лясах забыў? Калі грыбы-ягады збіраеш, то дзе твой кошык? Калі палюеш, дзе лук са стрэламі?

Якуб і распавёў у які раз пра сваё падарожжа. Дзяўчына недаверліва галавой матлянула:

– На неба, бач ты! Цябе паслухаць – і сабака паляцець можа.

Тут Вяль заскуголіў жаласліва, ажно слёзы з ягоных вачэй закапалі. Давялося Якубку й пра тое сказаць, што насамрэч цмок гэта бяскрылы. Думаў, спужаецца Арыся, але яна не з палахлівых была: хіба што на крок адступіла.

– Калі ты напраўду да ветру ў госці сабраўся, – сказала яна, – то табе спяшацца трэба. Бо войска варожае ўжо тут, па лясных сцежках употай шыецца. Дачуліся, мабыць, што князь сваіх720 вояў збірае, ды вырашылі першымі

напасці. Вось чаму я так бегла: людзей у жалезнай вопратцы бачыла! Упільнаваць хацела, якое ліха ў маіх запаветных мясцінах грыбы топча. І дазналася – бачыш.

Ажно дух Якубу заняло: час мінае, а як на неба ўзняцца – дагэтуль невядома. Арыся ж прыпынілася на ўзлеску, угару галавой паказвае:

– Глянь, якая хмара насоўваецца! Зараз дождж лупане, а мы да маёй хаты амаль прыйшлі. Усё адно пад дрэвам хавацца будзеш. Дык лепей пад дахам, ля печы!

Сказала – і ўся чырванню залілася, валасы назад адкінула, наперадзе пакрочыла. Патаптаўся Якубка ў роздуме дый патупаў следам.

## 8.

Нядоўга цягнулася-віхляла сцежка – прывяла яна да вёскі Зарэчнай. Здагадаўся адразу Якуб, дзе Арыся жыве: вунь хатка, невялічкая, але спраўная, а побач рабіна агністымі гронкамі ззяе. І старая непадалёк сядзіць, косці на сонейку выгравае ды ў бок лесу падслепавата пaглядае.

– Гэта бабуля мая, Хвядоня, – паказала дзяўчына.

Як толькі бабка заўважыла іх, дык пачала галасіць: што за ўнучка такая да гэтакая, дазволу не пытае, у лесе адна прападае, цяпер вось і хлопца знеткуль прывяла. Добры ён, кажа, – а раптам якісь шарахвост? Але што ўпартую дзеўку розуму вучыць: тая тупне бы каза нагою ды па-свойму зробіць.

– Ат, з норавам ты мне дасталася! – прабурчала старая Хвядоня і ўсё ж такі госця да стала запрасіла.

– Наравістыя светам уладаюць, а пакорныя ды ціхія ніколі шчасця не маюць, – адказала на тое Арыся.

Спамянуў Якубка бацьку, які працаваў за двох, а бедаваў за трох. Але ж таксама маці прыгадаў з яе ласкай-лагодаю, і падумаў, што розныя дарогі да шчасця вядуць: бывае, што й цярплівасць паволі сваё возьме. Распавёў ён пра сям'ю сваю, пра хатку, пра Верасніцу. Ды так, што заслухалася Арыся, прыціхла бы кветка, нават галавой заківала. А дождж тымчасам па вокнах лупіў, бура ў коміне свістала, за вугламі раўла. Ды Вяль у куце чмякаў: бульбу печаную з лушпіннем еў так, ажно вушы трашчалі. Гэта бабка ад добрага сэрца яму міску паставіла: маўляў, сам не даеж, а жывёліне дай, бо яно нямое, папрасіць не можа.

Неўпрыкмет за гутаркай і залева скончылася, кроплі ў праменях дыяментамі зайгралі. І тут Вяль з месца падарваўся, да акенца кінуўся.

– Чагойта ён ускочыў, як апечаны? – здзівілася бабка Хвядоня.

– Вядома чаго, – здагадалася ўнучка. – Адзін цмок другога ўбачыў.

– Якога другога? – не ўцяміў Якуб.

– Дык вясёлку ж! Яна ў нас ваду з рэчкі смокча.

– Хіба гэта не чароўны мост між берагоў? І не дзяўчына, што паўнюткія вёдры на неба носіць?

– Не, – засмяялася Арыся. – Казкі для малых дзетак! Вясёлка – тая шчэ пачвара. Нібы змей даўжэзны, гэта ў Зарэчнай кожны ведае. Насмокчацца вады дапаўна – і цягне на хмару, а пасля з хмараў тых зноў дожджык бывае. Матулька мая нябожчыца ніколі не дазваляла мне ў той час на рэчку хадзіць, бо вясёлка жабак і рыбак заглынае. А калі чалавек незнарок ёй трапіцца, то й яго забраць наверх можа. Слушна я, бабулечка, кажу?

– Атож, – пагадзілася бабка.

Тут ужо Якуб ускочыў – ледзь стол не перакуліў.

– Вось як на неба забрацца! – выгукнуў. – Пабягу хутчэй, пакуль цмок той не напіўся. А ты, Вялька, тут застанься. Цяжкі ты, як той камень. Дваіх нас вясёлка не ўзнясе!

– А мы што? – расхвалявалася Арыся

– Ратуйцеся ад войска варожага. Людзей хавайце, жывёлу ганіце на балотныя выспы. І ганцоў пашліце, каб у іншых вёсках ведалі... А я паспрабую ветру пакланіцца, з сонцам угаварыцца ды князёўну дадому вярнуць!

Якуб ужо й парог пераступіць паспеў, як думка пра патэльню стралой працяла. Зняў яе з торбы, Арысе аддаў.

– Вось, табе гэта, – трохі разгублена патлумачыў. – Адна чараўніца перадаць загадала. Сказала, ты ведаеш, што рабіць.

Чмыхнула Арыся, носік востры зморшчыла: усім дзеўкам кветкі дараць ці абаранкаў лычку, а ёй – сходу патэльню! Але ўзяла: не прападаць жа добрай рэчы!

– Ты, Якубка, хоць з неба, хоць з-пад зямлі вярніся, – прамовіла яна і ў хату пайшла.

Не ставала часу хлопцу над яе словамі ўздыхаць: таропка пачухаў ён туды, дзе рака ўзгорак абвівала. Там дуга каляровая зіхотка ззяла, канцом за

небакрай чаплялася. Прадзёрся Якуб праз гушчу вярбы на беразе і бачыць: не памылілася Арыся, сапраўды вясёлкавы цмок ледзь не з-пад ног ваду п'е! Галаву да самага дна апусціў і смокча так, што рака бурліць. А праз луску празрыстую, паласатую бачна, як разам з вадой рыбінкі вірлавокія, ракі вусатыя і нават бабры з бабранятамі кудысьці ўгару ляцяць.

Нейк вусцішна Якубу стала: не жартачкі гэта – пачвары проста ў пашчу лезці! Невядома яшчэ, жывым ці мёртвым на тым краю апынішся... Ды пакуль ён вагаўся, вясёлка запаволілася, прыцьмела. Набраўся духу хлопец, усклікнуў у запале:

– Не на тое мяне маці нарадзіла, бацька выгадаваў, вецер вылекаваў, зямля родная жывіла, людзі добрыя спрыялі, каб я цяпер вось тут дрыжаў, як хвост авечы!

Уцягнуў ён у грудзі паветра, як тая вясёлка ваду, заплюшчыў вочы дый плюхнуўся ў раку. Заглынуў яго цмок адразу і панёс на неба, да хмар.

## 9.

Ляцеў, ляцеў Якубка; у рукавы яму куклянак набілася, у валасах багавінне заблыталася. Высока да неба, ужо й подыху не хапае, вось-вось хлопец вадзіцы рачной наглытаецца. Але ж адважных лёс любіць: з'явіўся нарэшце другі край вясёлкі, і не хвост там аказаўся, а яшчэ адна пашча. Выплюнуў цмок чалавека разам з вадою на хмару, а сам у паветры растаў.

Атросся Якуб, прадыхаўся ды агледзеўся: ці праўда ён на небе? Паветра такое лагоднае – хоць у яго кладзіся. Наваколле блакітна-сіняе бы валошка, толькі ўдалечыні сярэбрыцца птушыная дарога. І кудзелістыя хмары з аблокамі, як авечкі: пасвяцца сабе на нябесным лузе, пхаюцца, нават жвякаюць чымсьці. Зірнуў хлопец уніз – і з вялізнай вышыні свой край убачыў. Палі-лясы коўдрай стракатай раскінуліся, на ёй вёсачкі кацянятамі прытуліліся… І ўсё так выразна, яскрава, быццам праз шкло глядзіш.

Здагадаўся Якубка: шкляное гэта неба. І дакеміў, што ветру тут ані вокам не відаць, ані слыхам не чуваць – далей шукаць яго трэба. Стаў ён скакаць па спінах хмарак-авечак і заўважыў, што зверху рыбацкі невад звісае. Напэўна, цмок вясёлкавы яго туды закінуў. Пацягнуў невад Якуб, спраўдзіў, ці моцна трымаецца, ды й узяўся караскацца па ім, як па лесвіцы вераўчанай.

Дабраўся да канца – і апынуўся ў іншай прасторы, дзе ўсё агніста-рудае бы ў начышчаным катле блішчыць, а дрэвы нябачныя лісцём звоняць. І так

загуло-зараўло ў вушах, што адразу ясна стала: вятры і навальніцы тут гаспадараць.

Толькі крок зрабіў Якубка на мядзяным небе, як сарвала віхарам з ягоных плячэй торбу ды панесла прэч. Кінуўся хлопец наўздагон, а ветрык з ім з гуляецца: то нібы сціхне, то раптам так узнімецца, што торба над галавой скача. Бег Якуб следам і дабег да дзівоснага палаца з чыстае медзі, які ў паветры вісеў. Хоць і збянтэжыўся Якубка ад такога хараства невыказнага, а й хвілі дарма не патраціў: падцягнуўся, зачапіўся – і вось ужо не вочы казеліць, а ў дзверы грукае.

Зазвінеў палац чароўны, скалануўся, яскрамі агнявымі заблiскацеў. І на парозе гаспадар-вецер з’явіўся. Вялікі, мажны, з кудламі ярка-рыжымі – ажно глядзець балюча. Ды з вуснамі бы каўбасы: відаць так дзьмуў, што папухлі.

– Эхехех! – выгукнуў ён. – Колькі людзей на зямлі бачыў, а на нябёсах – ані разу! Навошта завітаў да мяне, чалавеча?

Пакланіўся Якубка нізка ды ўсё да кроплі распавёў.

– Не, – пакруціў кудлатай галавою вецер. – Не я, Віхор, твой чуб пасерабрыў, не мая гэта ласка. Хадзі-тка ты далей, да жалезнага палаца: там Падвей з Бурай жывуць.

Падзякваў хлопец шчыра, а пра рэчы свае яму й зайкнуцца боязна. Але Віхор рагатнуў, ажно палац здрыгануўся, і сам падаў яму торбу.

– Бяры, не крыўдуй. Жартаваць я люблю, а бяды не чыню. Нягод і без мяне ўдосталь.

І дзьмухануў так, што Якуба угару закінуў, да неба жалезнага.

Іншае там наваколле было: шэрае ды халоднае, з вятрамі пранізлівымі. Як узыдзецца сухавей – пылам колкім, іржавым у твар б'е. Блукаў хлопец амаль навобмацак – і дапяў-такі нарэшце да палаца з жалеза, ланцугамі да нябеснай цвержы прыкутага. Рыпеў той палац, быццам на лёс жаліўся, ды аканіцамі ляскатаў.

Узлез па ланцугу Якубка, пагрукаў. Страсянуўся палац, адчыніліся дзверы, і паказаліся вятры-гаспадары, вялізныя бы волаты. Бура з бровамі кашлатымі над маланкамі-вачыма, косамі расчупранымі, раскудланымі, а Падвей з барадой доўгай зблытанай ды позіркам змрочным, калючым.

– Ухухух! – прагрымеў Падвей. – Колькі людзей на зямлі і пад зямлёй бачыў, а на нябесах – аніразу! Навошта адважыўся заявіцца, чалавеча?

Растлумачыў Якуб. Паглядзелі адзін на аднаго вятры, магутнымі плячыма пацiснулі.

– Не мы цябе ратавалі, срэбрам чуб пасыпалі, – мовіла Бура. – Але дапаможам табе. Хоць ты і чалавек, але духам нам не чужы: каб сюды трапіць, трэба ўдосталь жалезнага бобу пад'есці. Выправім цябе далей, да срэбранага палаца, дзе Вея з Сіверам жывуць.

Дыхнулі-падзьмулі яны ўдваіх – Якубка й паляцеў. Прызямліўся туды, дзе ўсё снежна-белае, толькі нябесная шэрань чароўнымі зоркамі ззяе. А пад нагамі бліскаўкі скачуць, быццам з сабою вядуць. Пайшоў хлопец следам і дабраўся да палаца з гладкага срэбра, што з ледзяной гары вежамі выступаў. Пакуль караскаўся туды Якуб, ледзь рукі сабе не адмарозіў. Але здужаў усё-ткі да вялізных дзвярэй далезці і туды пагрукаць.

Заскавыталі дзверы, як віхура зімовая, разнасцежыліся, і да госця няпрошанага гаспадыня выйшла. Сама ростам з вежу, паставы зграбнай, са скурай блеклай, а кудзеры снегавымі хвалямі да пят спадаюць.

– Охохох! – здзівілася. – Колькі людзей на зямлі і пад зямлёй, на далёкіх морах і высокіх горах бачыла, а на нябесах – аніразу! Чаго шукаеш тут, чалавеча?

Заварушыў Якуб вуснамі, ад холаду сінімі, апавёў усё, як ёсць. Выслухала яго Вея, галаву нахіліла:

– Хоць смяротных я часта шкадую, не маёй воляю ты акрыяў. Але чую подых брата старэйшага, Сівера. Ён самы суровы з нас, але часам бывае да людзей ласкавы. Брат у Месяца гасцяваў, недзе забавіўся па дарозе. Бачу, зусім ты скарчанеў, сам да яго не дабрыдзеш – то я цябе ў плечы папхну!

Паднесла далонь да вуснаў Вея, дзьмухнула россыпам сняжынак, і паляцеў Якуб ад палаца ў срэбраную далячынь.

## 10.

Імчаўся Якубка, ветрам гнаны, пакуль за штосьці не зачапіўся ды не паваліўся. Толькі на ногі ўстаў, глядзіць: віхраслуп насустрач яму нясецца, такі вялізны, што й канца не бачна. І снег ад яго ва ўсе бакі, як іскры ад кавадлы, сыплецца. Загойсаў хлопец, не ведае, куды бегчы, каб не расціснула моцай такой, бы порхаўку. Але слуп раптам спыніўся і ў волата ператварыўся. Яшчэ большага за іншых, з сівой барадою гушчэзнай, дзе хмары заблыталіся, вачыма сінечы пранізлівай ды вуснамі ледзянымі.

Якуб перад ім, як пень у белы дзень, застыг, пакланіцца нават забыўся. А Сівер зірнуў на яго зверху і раптам позіркам пацяплеў.

– Не першы раз бачымся, чалавеча! Ты памерам з мой палец быў, калі я тваю люльку калыхаў, хваробы з цябе выдзімаў. От як бывае: дрэваў стогадовых, палацаў каралеўскіх не шкадую, а малечу ўзяў і пашкадаваў! І нездарма, раз ты вырас такім смелым ды спрытным, каб да мяне трапіць. Ну, гавары, срэбраны чуб, якое ліха цябе прывяло, бо ад дабра на самае неба не залазяць.

Ачуўся Якубка, адбіў паклон свайму дабрадзею ды ўсё ад пачатку й выклаў. Моўчкі слухаў яго Сівер, толькі вачыма бліскаў.

– Ніколі паўночны вецер з гарачым сонцам складна-ладна не жыў, – нарэшце сказаў ён. – Што сонца выпесціць – вецер развее. Што вецер выстудзіць – сонца сагрэе. Хоць мы з табой і параднiлiся, чалавеча, не стаў бы я дзеля цябе ў свайго непрыязніка ласкі прасіць. Але вайна – рэч іншая. Вайна страшней за ўсіх пачвар: кроў вып'е, плоць праглыне, попел выплюне – і зноўку галодная. Праляціць яна ценем змрочным, людзей пасля сябе не пакіне. Не будзе каму араць, сеяць, жаць ды малаціць, хлеб пячы і нас з сонцам карміць. Таму зраблю, як ты хочаш, угавару князёўну малую вярнуць.

Узрадаваўся Якуб. Не ведае, як і дзякаваць. А Сівер глядзіць на яго ўнікліва, быццам чакае нечага:

– Ты няпросты шлях адолеў, жыццём рызыкаваў, харобрасць і кемнасць паказаў. Больш нічога папрасіць не хочаш?

– Калі вы, дзядзечку вецер, дазволіце, – адказаў хлопец і пра Цыпрыяна распавёў.

– Стары вядун таму дарогу да продкаў знайсці не можа, — Сівер прагуў, – што зашмат людзей за жыццё сваё пераслухаў. Не прыходзілі да яго ў весялосці. Усё болей з горам і бядою, зайздрасцю ды задумай злоснай. І гэта цяпер яму позірк затуманьвае, быццам засьва перад вачыма. Няхай знойдзе ў лесе яваравы пень, дзірку ў ім зробіць ды вышапча ў яе ўвесь цяжар з душы. Вось тады дарога й расхінецца.

Усцешыўся Якубка, што зможа Цыпрыяну дапамагчы. А вецер ізноў пачакаў чагосьці, дый не дачакаўся; усмешка лёд на яго вуснах растапіла:

– Эх, ты! Чуб срэбраны, лоб залаты! Пра ўсіх падумаў, а пра сябе забыўся. З неба як спускацца збіраешся? Трымай вось: праглынеш, скокнеш уніз – і ўдома адразу апынешся.

Даў Сівер хлопцу перлінку нябесную, што як зорачка мігцела і месяцовым срэбрам пералівалася, ды загадаў:

– Не хадзі нікуды, тут стой. А я да сонца ў госці завітаю.

Застаўся Якуб адзін-адзінюткі. І такая цішыня запанавала, нібы на нябёсах паўсюль ніводнай жывой душы не засталося. Срэбра вакол холадам дыхае, ледзянымі ланцугамі з галавы да пят абвівае. Змерз Якубка, задрыжэў, так і глядзі – ссінее, як пуп курыны. З нагі на нагу пераступае, але крок зрабіць не смее. Вось і вочы яго паволі заплюшчыліся, вейкі зліпліся, шэранню абраслі...

Але раптам у паветры цяплынь разлілася, густая ды салодкая, нібыта бочку мёду хтосьці перакуліў. А праз імгненне й зусім горача зрабілася. Святло залаціста-вогненнае скрозь павекі прабілася – нават краем вока пазіраць балюча. Апрытомеў хлопец, адагрэўся, скарынка ледзяная з яго ручаямі пацякла. Пачуў ён голас пяшчотны, бы матчын:

– У час мяжовы, надвечаровы, калі сон з яваю зліваецца, мае промні ў сцежкі ператвараюцца. Хай людзі памятаюць  гэтады дзетак сваіх берагуць, каб тыя дарожкамі святлістымі да мяне не ўзбеглі і самі праменьчыкамі не сталі. А яно хоць і добра на небе свяціць, ды на зямлі жыць – лепей! Ну, не плач, мая любая, бо свае ясныя вочкі выплачаш. Як ночка міне ды смуга развеецца, так і усё растане-забудзецца…

Рэхам апошняе слова разнеслася – і згасла святлыня тая, нібы хмара праглынула. Знікла сонца, вярнулася на неба залатое. І ветру паўночнага таксама ні слыху ні прослыху. Якубка ж адчуў, што на руках кагось трымае, расплюшчыў вочы – а там дзяўчынка, князёўна малая.

## 11.

Добра, здавалася б, калі ўсё добра заканчваецца. Але не тут тое было. Датумкаў Якуб раптам: пярлінка ж нябесная ў яго адна, а іх з князёўнай – двое. Што рабіць? Самому праглынуць ды з дзяўчынкай на руках скокнуць? А калі яго заматляе-закруціць, галаву завіне, і ён дзіцятка міжволі з рук выпусціць? Хацеў хлопец Сівера пачакаць, рады папрасіць, але таго як вецер знёс. Тымчасам цвержа пад нагамі тонкаю, празрыстаю стала, кругі па ёй, як па вадзе, пабеглі. Вось-вось праваліцца – не пазяхаць тут трэба, а глуздом варушыць! Нядоўга думаючы, даў Якубка перлінку князёўне: тая за шчаку яе сунула, як цукру драбочак. Праз імгненне якое лопнула пад імі срэбра і… паляцелі абое ўніз.

Бачыць Якубка: дзяўчынка са смехам бы на хмары-невідзімцы кудысьці нясецца. А сам ён сякерай на дно падае. Прыгадаліся, быццам ні стуль ні ссюль, дарункі розныя, што ў дарозе яму дасталіся. Эх, што будзь, то й дзейся!

Выхапіў ён кіпцюр востры, што ад людзей-ваўкоў атрымаў, ды зачапіўся – спачатку за неба жалезнае, потым за мядзянае і шкляное. Гэтакі скрыгат раздаўся – пашчэнкі звяло! Амаль утрымаўся Якуб, але зламаўся яго кіпцюр, і стаў ён падаць далей.

Тады ўзяў Якубка лускавінку, што ад людзей-самоў атрымаў, ускочыў на яе нагамі і па аблоках заслізгаў. З аднаго на другое, усё ніжэй і ніжэй. Але сцерлася лускавінка, і зноў паляцеў ён потарч.

Ужо й дых у хлопца заняло, і ў грудзях сцяло, а ўсё-ткі здолеў ён выцягнуць пяро, што ад людзей-гусей атрымаў. Вырасла няўзнак пёрка, распушылася, стала Якуба павольна долу спускаць. Вось і зямля блізка, на гладкім дыване лесу пачалі ўзоры дрэў выступаць, а блакітная ніціна ракі ручніком разлілася. Яшчэ трохі – і прыназеміцца Якубка цэлым ды спраўным. Аднак не вытрымала пяро, разматлялася, увесь пух з яго зляцеў. А вышыня такая, што нават не пакалечышся – заб'ешся і следу не пакінеш.

Зразумеў Якуб, што гэтым разам канцы яму прыйшлі, бо нічога ўжо за пазухай няма. Зажмурыцца хацеў са страху, ды не можа: так мала жыць засталося, кожнага мігу шкада – няўсцерп на родную старонку наглядзецца. Абняў ён прагным позіркам палі, хаткі, сцежкі... і кропку цёмную ля рэчкі. А кропка тая – бач ты! – неяк захутка расце. Быццам хтосьці насустрач ляціць. Адно хістаецца сюды-туды, як муха аглушаная.

Змігнуў Якубка раз, другі – дык гэта ж Вяль у аблічча цмачыным! З усяе сілы адзіным крылом махае, лапамі ў паветры перабірае, хвастом сябе падганяе. І паўтарае:

– Не дашi! Не дашi гашпадару жагінуць, не!

Ухапіў Вяль Якуба, крылом захінуў, лапамі абвіў, хвастом абкруціў. Ды спінаю уніз павярнуўся, каб самому перш выцяцца. Так упалі яны ўдвух, і ад цяжару цмока праваліліся туды, дзе сонца не грэе, дзе вецер не вее, дзе людзі не бываюць – пад зямлю, у тагасвет.

Узнепакоіліся там памерлыя і ненароджаныя, загулі наўцы, задрыжэў з лусканнем і сыкам змяіны вырай. Давай тады Вяль свайго непрытомнага гаспадара назад, да жывых выцягваць. Выбраўся з ім разам, яміну лапамі загроб, хвастом замёў, ды не дарабіў усё як след – дзіркі адной не заўважыў. Забіла адтуль крыніца, усё вышэй і вышэй. Гэта падземныя рэкі ды азёры, моры-акіяны на паверхню вырваліся, каб увесь свет затапіць. Пакуль цмок на спіне сваёй Якуба да Зарэчнай нёс, ужо й сажалка нацякла, у возера ператварылася ды лінула ў нізіну, дзе лес стаяў.

Бягуць ад бяды той звяры, ляцяць птушкі, а воі ў цяжкіх даспехах жалезных – як ім уратавацца? Хтосьці на дрэва здолеў залезці, хтосьці на

ўзгорак забраўся, а хтосьці й патануў. А воды ўсё прыбываюць: вось і да вёсак падбіраюцца. Выбеглі насустрач Вялю Арыся з бабкай Хвядоняй, і цмок сяк-так распавёў ім, што ўсчынілася.

Згадала ў той момант дзяўчына мамчыны казкі і татавы байкі. Вусны сцяла, плечы распростала ды паспяшалася ў хату – патэльню ўзяць. Як ні спыняла яе бабка, як ні галасіла, усё адно Арыся наўпрасткі да возера пабегла. Распранулася на беразе, хустку раскруціла, боты скінула і ў адной кашулі нырца дала з галавой. Адшукала на дне тую крыніцу дый накрыла яе патэльняй.

І перастала біць вада з-пад зямлі, сілу страціла. Не грызла ўжо зубамі пеністымі дрэў, не лізала пагоркаў – праз шчыліны паволі ў тагасвет вярнулася.

Нырнула яшчэ раз Арыся, паклала на патэльню камень, апранулася і пайшла дахаты, дзе бабка Хвядоня Якуба даглядала ды Вяля за паслугу бульбай печанай частавала.

## 12.

Спачатку вестка гэтая ў буйных гарадах прагрымела, потым па мястэчках разышлася, а там ужо й да вёсачак дакацілася. Знайшоў валадар дачушку прапалую: нейкім дзівам яна ў калысачцы сваёй апынулася. Узрадаваўся ён, засмяяўся – і ланцуг на яго сэрцы лопнуў, парушынкамі драбнюткімі распаўся. Перадумаў князь ваяваць, распусціў вялізнае войска і зладзіў гэткі банкет на ўвесь свет, што стол ад розных страў ламаўся – хіба птушынага малака там не хапала.

Рэшткі войска варожага, што ад падземных вод уратаваліся, сяляне ў лесе адлавілі. Хутка княжацкая дружына падаспела дый добра так чужынцам давяла, што болей тут ім не бываць, касцей не ламаць, гарачай крыві не разліваць. Вось і пацягнуліся тыя назад у свае землі бы мокрыя куры.

А Якуб – срэбраны чуб ціха і сціпла, без гарматных залпаў ды ўрачыстых парадаў у родную Верасніцу вярнуўся. Праўда, былая мянушка яму ўжо не надта пасавала: пасля тых прыгодаў-нягодаў у яго не толькі чуб – уся галава срэбрам пакрылася. Толькі сям-там праглядалі валаскі з чыстага золата: напамін пра тое, што ён з сонцам сустракаўся.

Радасці ў маленькай хаціне было не менш, чым у палацы. Выбегла насустрач сыну Аўдоля, абняла яго, расцалавала:

– Такі мне сёння хлеб удаўся, гладкі, духмяны, з усіх бакоў роўны. Вось і падумала: Якубка наш дахаты вернецца!

А Мікош ёй падтаквае:

– І я сёння на заранцы на неба глянуў: мятла хвастом махнула, знічкамі раскацілася. Так і падумаў: Якубка наш пастараўся!

Як нагледзеліся бацькі ўдосталь на сына, то й дзіўнага сабаку ўрэшце прыкмецілі, якога Якуб з падарожжа прывёў. А тое ж Вяль быў: хоць ён свайму гаспадару аддзячыў, жыццё яму выратаваў і волю сабе здабыў, ўсё роўна жыць з ім застаўся. Бо палюбіў цмок бульбу печаную – тоўчаную, гарачую, каб дзьмухаць і ад пуза трэскаць – а цмачынымі лапамі яе ў зямлю не пасадзіш ды ў печку не засунеш. Вось і надумаў Вяль з людзьмі застацца: то сабакам дом вартаваць, то канём барану цягаць. На сяле ж такія парадкі: хто не працуе, той не есць. Але час ад часу Вяль далёка ад вёскі адыходзіў, там у цмока перакідаўся і праставаў кудысьці па сваіх патаемных справах. Куды і навошта – так і не ўведаў ніхто. Але хаця б у люду тутэйшага авечкі ды іншая жывёла не прападала, і на тым дзякуй.

Што да Цыпрыяна, то занёс Якуб яму вясціну ад паўночнага ветру. Неаднойчы потым стары ў лес хадзіў, з яваравым пнём шаптаўся – столькі ў ягоным сэрцы назапасілася. А як выказаў усё да донца, то й заслона з вачэй спала: адразу яму дарога да продкаў адкрылася. Хатка ж лясная, бы той пень, спарахнела і развалілася, а рэшткі дробнымі белымі кветкамі ды мохам калматым абраслі.

Апроч гэтага, мала што ў Верасніцы змянілася. Хіба пасля здарэння, калі вада з-пад зямлі ледзь наваколле не затапіла, доўга розныя чуткі ва ўсе бакі паўзлі, адна за другую дзіўнейшая. Камусьці таямнічыя здані мроіліся, хтосьці вужынага караля з залатой каронай бачыў, а кагосьці цешча-нябожчыца з тагасвету наведала і нават праміж вушэй улупіла. А яшчэ людзі нібы на свае вочы бачылі, як у рэчцы такая вялікая рыбіна з'явілася, што качак цалкам праглынала: прыплыла яна, пэўна, з падземнага мора-акіяна.

За тымі байкамі ды гутаркамі, жахамі ды страхамі не адразу жыхары запрыкмецілі, што ў іх вёсачках сапраўднае чараўніцтва расквітнела – якое каханнем завецца. Пратапталася сцежка наўпрост з Верасніцы ў Зарэчную: узімку яе снег не засыпаў, улетку трава не ўсцілала. І як час надышоў, згулялі Якуб з Арысяй вяселле. Няхай сталы там не ламаліся ды служкі страў пад залатымі накрыўкамі не падавалі, затое госці тры дні скакалі – ажно хаты навокал трэсліся. Прыбеглі на свята людзі-ваўкі, прыплылі людзі-самы, прыляцелі людзі-гусі. Казалі, што нават вятры вяселле наведалі, хваробы ды няшчасці ад людзей здзьмулі-павыдзімалі. А сонца тыя дні заходзіла так позна,

як ніколі: усё не магло на маладых налюбавацца. І хоць Якуб і Арыся багатых падарункаў не атрымалі, з таго часу сілы добрыя ім спрыялі.

Такія дзівосы здараліся на зямлі той вольнай, шаўковай, вабна-гожай, што за гарамі і марамі, за пушчамі-дрымушчамі, за гразкімі балотамі ды вірлівымі рэкамі ляжала. А калі ж нештачкі яшчэ паслухаць жадаеце, то й гэтак вось бывала: пайшоў адзін чалавек па бярозавік, набраў поўнае вядро дый панёс дахаты. Хадзіў ён, стаміўся, на печ заваліўся, а сок выпіла парася – от вам і баечка ўся.

## СЛОЎНІЧАК ДЛЯ ДАПЫТЛІВЫХ

### 1.

*…грукае юшкай раззлаваны пячурнік.*

**Пячурнік –** адзін з хатніх духаў; жыве за печкай ці пад печчу і падобны на ката, які ходзіць на задніх лапах. З’яўляецца апекуном хаты, ласуецца рэшткамі вячэры ці малаком. З крыўды ці суму можа выць у коміне і ляскаць пячной уюшкай.

*... крыксы немаўлятку даймалі.*

**Крыксы** – немач, што адбірае ў немаўлятак сон. Шмат хто верыў, што крыксы прыносяць начніцы – духі ў жаночым абліччы. Існавала такая замова: “Крыксы-варыксы, ідзіце за парог, дайце дзіцяці спакой. Начнічкі-сястрычкі, ідзіце з агнём і з дымам, а дайце дзіцяці спакой”.

*... бо моцна ўдзеяна.*

"**Удзеяна**" – маецца на ўвазе, што хтосьці наслаў сурокі ці праклён. "О, я казаў, што тут удзеяна. Эге ж, удзеяна, ды яшчэ як".

*Прынёс вядун пустую буслянку…*

**Буслянка** – гняздо, дзе бусел з бусліхаю гадуюць сваіх буслянят.

### 2.

*…за што малы схопіцца? За молат – можа, кавалём стане, за пешню – бортнікам, за стралу – паляўнічым, а за сяўню – будзе зямлю араць ды збожжа сеяць.*

**Пешня** – прылада бортніка, выкарыстоўваецца для выдзёўбвання борці (дупла) у калодзе. Выглядае як жалезнае долата з доўгай драўлянай ручкай. Часам жартавалі, што бортнік з пешняй падобен да дзятла: быццам птушка дзюбай, робіць пчолам жытло.

**Сеўня** (таксама сявалка, лукошка, сявенька, сельнік...) – кош для сяўбы збожжа. Сяўню плялі з саломы, кары, лазы і прымацоўвалі да яе вяроўчыну ці дзягу, каб надзець на плячо.

*...“Здарова будзь, цётка Маруха!”*

Раней беларусы клікалі (а дзесьці, мо, і дагэтуль клічуць) мядзведзя чалавечымі імёнамі: **Міхаіл, пан Міка, Марцін**, а мядзведзіцу – **Маруха**.

*Трымаўся на роднай зямлі, як на камлі*.

**Камель** – ніжняя частка ствала дрэва, больш моцная, цвёрдая, параўнальна з верхавінай. "Моцны як камель" – казалі пра дужага хлопца. А прымаўка "на роднай зямлі як на камлі" гаворыць пра пачуццё ўпэўненасці, спакою на радзіме.

*Вось сонейка й забрала князёўну з сабою*.

Існавалі (дый зараз існуюць) розныя прымхі і забабоны датычна таго моманту, калі **сонца набліжаецца да небакраю**. Гэтым часам, калі мяжа між светаў расхістваецца і вытанчаецца, нельга класціся спаць, каб не балела потым галава. Датычна ж дзяцей небяспека павялічвалася: сонца магло забраць іх да сябе на неба.

*Надта ж прыкметнай на небе мятла зрабілася…*

**Мятла** – так раней называлі камету, якую лічылі вястункай войн, мора ды іншых няшчасцяў.

## 3.

*Досвіткам, калі яшчэ зарніца свяціла…*

**Зараніца** – вялікая ясная зорка, якая свеціць да самай раніцы, будзіць людзей і кліча іх да працы. Ёсць яшчэ **вечарніца** – вечаровая зорка, што аглядае зямлю перад тым, як насунецца цемра. Насамрэч і зараніца, і вечарніца – гэта адна і тая ж планета Венера (Мілавіца), але ў народнай свядомасці яны ўспрымаліся як два розныя нябесныя свяцілы з пэўнымі сваімі ролямі.

## 4.

*…на прызбах старэчы косці грэюць...*

**Прызба** – земляны насып, які атачаў хату, захоўваў яе знізу ад сырасці, дажджу і снегу. Над прызбай рабілі драўляны насціл, які ператвараў яе ў зручную лаўку, дзе можна было і адпачыць, і паспяваць, і паплакаць. Потым хаты сталі будаваць на падмурку, і патрэба ў прызбах адпала.

*... жонка ягоная акурат паспела крупнік зварыць.*

**Крупнік** – суп з ячных або прасяных круп, у які часта дадавалі пакрышаную на скрылькі бульбу.

*…што бяжыць праз хмызняк і балацянку да ўзлеску.*

**Балацянка** – невялікае балотца, забалочаная мясціна.

## 5.

*Якуб быў гатоў убачыць бабу страшную, раскудлачаную, з жалезнымі таўкачамі заміж ног, якой бацькі неслухмяных дзетак палохаюць.*

Гэта апісанне **Бабы-Ягі**, ці **Ягіні** – злой чараўніцы, гаспадыні ўсіх ведзьмаў; яна "як ідзе лесам, то лес ломіць і дарогу сабе цярэбіць тымі таўкачамі".

*Крок памёр ужо, Крагавей ва ўсе крылы ўцёк. Хіба што Вяль у нашых мясцінах застаўся.*

**Крок** – цмок, які жыў пад Кракавам. Калі Вяль праглынуў шкуру авечкі з саломай і серкай, то зароў так гучна, што Крок пачуў яго і адразу памёр са страху.

**Крагавей** – змей (цмок) з Ляшскай зямлі, які панадзіўся лётаць у беларускі край жыўцом людзей глытаць. Быў ашуканы і параможаны князем Радарам – міфічным заснавальнікам Камянецкай вежы, і без озірку паляцеў у сваё каралеўства.

*…дык мне на тое пералёт-травы стае.*

**Пералёт-трава**, ці лятучае зелле – чароўная расліна, якая можа сама пераносіцца з месца на месца і ў лёце зіхаціць, бы зорка.

## 6.

*... што рачныя ды азёрныя валадары чужой вады не любяць…*

**Вадзянікі** не толькі не любяць чужой вады, але нават могуць загінуць ад вялікай яе колькасці. Гэтым карысталіся людзі, калі хацелі пазбыцца вадзянікоў: прарывалі канал паміж двума вадаёмамі, змешвалі ваду і такім чынам знішчалі абодвух водных гаспадароў.

*…не мяскам-сальцам – свінымі кішкамі частаваў...*

Дасведчаны млынар мусіў знацца з вадзяніком і ўсяляк з ім ладзіць, іначай вадзянік псаваў і ламаў млын. Час ад часу трэба было кідаць у ваду "**пачастунак**": напрыклад, сала, а то і цэлае свіное сцягно. Хаця непераборлівы вадзянік мог здаволіцца і кішкамі, пацягнутымі тлушчам.

## 7.

*... як бы незнарок у ведзьміны пляхі не ўступіць...*

**Ведзьміны пляхі** – голыя пляміны зямлі ў лесе, часцей за ўсё паблізу балацінак, якія ніколі не зарастаюць. Нагадвалі круглыя выгарыны ад вогнішча. Лічыліся нячыстым месцам, таму ступаць туды было небяспечна.

*…ані верашчакі з кацiных хвастоў.*

**Верашчака** – традыцыйная страва: падсмажаныя кавалачкі сала, каўбасы, свіныя скабачкі з вострымі затраўкамі падкалочваюць мукой і пражаць у печы. Кацiных хвастоў зазвычай не дадаюць.

*Згінь, мара, прападзі!*

**Мара** – тут: нейкі дух ці прывід, чароўная здань.

## 8.

*... а побач рабіна агністымі гронкамі ззяе.*

У некаторых мясцінах, калі ў доме нараджалася дачка, бацька саджаў пад акном **рабіну**. Праз гады на дрэўцы з'яўлялася шмат чырвоных ягадак – гэта сведчыла пра тое, што тут жыве дзяўчына на выданні.

## 9.

*... толькі ўдалечыні сярэбрыцца птушыная дарога.*

**Птушыная дарога (птушыны шлях)** – так простыя людзі называлі Млечны Шлях. Лічылася, што менавіта той нябесная дарогай птушкі ляцяць у вырай.

*…трэба ўдосталь жалезнага бобу пад'есці.*

Прымаўкі “**наесціся жалезнага бобу**”, “**з'есці пуд жалезнага бобу**” і г.д. азначалі набрацца цярплівасці і выявіць упартасць.

## 10.

*Не будзе каму араць, сеяць, жаць ды малаціць, хлеб пячы і нас з сонцам карміць.*

Маюцца на ўвазе народныя абрады, звязаныя з шанаваннем сонца, ветру ды іншых сіл прыроды. Напрыклад, каб задобрыць вецер, людзі “**кармілі**” яго хлебам, крупамі, рэшткамі святочных страў.

## 11.

*…пад зямлю, у тагасвет.*

**Тагасвет** (іншасвет, той свет) – свет памерлых і яшчэ ненароджаных, адкуль з’яўляецца і куды сыходзіць усё жывое.

*…загулі наўцы, задрыжэў з лусканнем і сыкам змяіны вырай.*

**Наўцы** – людзі, якія памерлі нядаўна ці не сваёй смерцю. Адрозна ад іншых нябожчыкаў, маглі вяртацца ў свет жывых. У некаторых паданнях ім адводзілі асобнае месца ў Тагасвеце – Наўе.

**Змяіны вырай** – вялікая схованка пад зямлёй (ці, у іншых крыніцах, глыбокая яміна), куды на зіму спаўзаюцца змеі. Дарогу ў змяіны вырай ведаюць толькі Гаспадары змей, якія ў пэўны час вядуць туды сваіх падданых.

*Адшукала на дне тую крыніцу дый накрыла яе патэльняй.*

У беларускіх паданнях часта накрываюць зачараванай **патэльняй** рэчку, крыніцу, возера, каб перасохла. Гэта тлумачыцца тым, што патэльня – прадмет, цесна звязаны з агнём, і таму валодае моцай пераадолення воднай стыхіі.

## 12.

*… пайшоў адзін чалавек па бярозавік…*

**Бярозавік** – свежы бярозавы сок, а таксама прыгатаваны з яго напой.